


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

7 снежня 2001 года

№ 49 (346)
Выходзіць па пятніцах

TV плюс

## Навіны рэгіёна

### За мяжу з дазволу аблвыканкома

МАЛАДЗЕЧНА. Кіраўнікі дзяржаўных прадпрыемстваў горада за 2 тыдні перад ад'ездам за мяжу па службовых справах павінны пісьмова паведаміць пра гэта ў аблвыканком. Выпушчаныя адпаведныя рашэнні аблвыканкома ад 6 лістапада і гарвыканкома ад 29 лістапада. Мэта – павышэнне эфектыўнасці выкарыстаня дзяржаўных валютных сродкаў.

Вольга ПІЛІПЕНКА.

### Першая валожынская кукуруза

ВАЛОЖЫН. Упершыню на Івянецкім племптушказаводзе атрымалі зерне кукурузы. Сёлета сабралі ўраджай у 150 тон з 30-гектарнай плошчы. Яго перарабілі на камбікорм.

Дырэктар завода **Браніслаў Грыневіч** гаворыць, што раней у раёне сяўбой кукурузы ніхто не займаўся.

У наступным годзе плануюць пашырыць пасевы да 150 гектараў, каб мець свае кармы і наладзіць сувязь з мясцовым камбікормавым заводам.

Вольга ПІЛІПЕНКА.

### Пацярпелі за даверлівасць

МЯДЗЕЛ. Яшчэ ў маі жыхар раёна закупіў у Княгініне і бліжэйшых вёсках 45 тон бульбы.

Але разлічыцца паабяцаў пасля таго, як рэалізуе яе ў Расіі. Людзі паверылі, але грошай не ўбачылі і дагэтуль. «Камерсант» тлумачыў, што падвялі расійскія партнёры. Урэшце аказалася, што ён зусім не меў права рабіць закупкі: не было ліцэнзіі. За ўсё гэтае ўзбуджаная крымінальная справа.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Смаргонка на «Полі цудаў»

СМАРГОНЬ. 14 снежня пакажуць гульню "Поле цудаў" з удзелам аграномa зімовага саду школы-інтэрната **Вольгі Пятровай**. Яна ездзіла ў Маскву з выхаванкай школы-інтэрната **Алесяй Свірскай** і дачкой. Тэмай гульні былі хваробы. На папярэднім этапе прапанавалася адгадаць, якую хваробу лечаць расолам. Правільны адказ – пахмелле – назваў іншы гулец. На памяць пра гульню Вольга Пятрова прывезла дадому пыласос.

Тарэса КУМІШЧА.

### Святкавалі юбілей

МЯДЗЕЛ. Шмат людзей сабралася адсвяткаваць стогадовы юбілей касцёла ў Кабыльніку. З суседніх вёсак прыязджалі не толькі на машынах і аўтобусах, але, як і 100 год таму, на вазах. Святую імшу з нагоды свята адправіў дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі **Кірыл Клімовіч**.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Пакурыў – загінуў

ВІЛЕЙКА. У нядзелю ноччу загарэўся жылы дом у Асіпавічах. Адзін чалавек загінуў. У доме жыла сямейная пара. Абодвум было па 62 гады. Напярэдадні яны ўжывалі спіртныя напіткі. Прычына пажару – курэнне ў ложку. Калі загарэліся пасцельныя рэчы, гаспадары спрабавалі самастойна патушыць пажар. Але мужчына памер ад угарнага газу. Яго жонка паспела выбегчы на вуліцу. Дом выгараў знутры.

Юрый КАРПІЦКІ.



## Надвор'е на выхадныя

Субота, 8 снежня

Мінск
-13 – -12°С (уначы)
-6 – -7°С (удзень)



Вільня
-14°С (уначы)
-3°С (удзень)



Нядзеля, 9 снежня

Мінск
-10 – -9°С (уначы)
-4 – -2°С (удзень)



Вільня
-2°С (уначы)
-1°С (удзень)



# Тэрарызм у Маладзечне?

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак горад ускалыхнулі адразу дзве падзеі. Каля 11 раніцы работнікі міліцыі загадалі работнікам і наведвальнікам магазіна №61 выйсці на вуліцу, бо знайшлі падазроны чамадан. А ўдзень у фае цэнтральнай гарадской бібліятэкі распылілі слёзатачывы газ. Што б гэта значыла? Мы апыталі некаторых сведкаў падзей.**

Намеснік начальніка Маладзечанскага ГРАУС **Віктар Івашанка**:

– У нас з'явіліся звесткі, што ля магазіна №61 знайшлі падазроны чамадан. Туды была накіраваная аператыўная група. Пасля праверкі аказалася, што ў чамадане было смецце. А паклаў яго дворнік. Эвакуацыі людзей з магазіна не было. Я не выязджаў у бібліятэку, але чуў, што газ распылілі ў выніку свавольства.

Грузчык магазіна №61:

– Каля 11 гадзін з'явіўся мужчына ў форме. Як пазней аказалася, гэта быў галоўны пажарны горада. Потым былі яшчэ некалькі міліцыянераў. Пасля нам загадалі пакінуць магазін. Прычынай эвакуацыі назвалі праверку сігналізацыі ў магазіне. Усе выйшлі на вуліцу. За домам былі дзве пажарныя машыны і адна машына "хуткай дапамогі". Праз хвілін 20 дазволілі вярнуцца. Відаць, усё скончылася добра. Хаця сярод работнікаў міліцыі хадзілі чуткі, што знайшлі нейкае выбуховае прыстасаванне.

Работніца гарадской бібліятэкі:



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА

**У аўторак невядомы на выхадзе з гарадской бібліятэкі распыліў слёзатачывы газ. Загадчык бібліятэкі Уладзімір Галаеў паказвае, як гэта магло быць.**

– У аўторак быў дзень зарплаты. Таму на першым паверсе было шмат людзей. Калі я атрымала грошы і выйшла з бухгалтэрыі, то ўбачыла, што людзі, якія знаходзіліся ў фае, кашлялі, у іх цяклі слёзы. Аказалася, толькі што невядомы, выходзячы з бібліятэкі, выпусціў слёзатачывы газ. Амаль адразу прыехала міліцыя.

Загадчык цэнтральнай гарадской бібліятэкі **Уладзімір Галаеў**:

– Распылілі газ у другой палове дня. Найбольшую дозу атрымлівалі тыя, хто ў той час заходзіў у бібліятэку. Я бачыў, як адну жанчыну забрала "хуткая дапамога". Потым дзеянне газу адчувалася і на другім паверсе. Выклікалі работнікаў міністэрства па надзвычайных сітуацыях і міліцыю. Але да гэтага адчынілі дзверы, каб газ выветрыўся, бо дыхаць было немагчыма. Работнікі міліцыі знялі паказанні ў гардэробшчыка і канстатавалі, што здарэнне падпадае пад артыкул "дробнае хуліганства".

У горадзе гаварылі, што падобны выпадак здарыўся на чыгуначнай станцыі Маладзечна, там таксама распылілі газ. Але намеснік начальніка транспартнай міліцыі **Аляксандр Зінюк** сказаў, што першы раз пра гэта чуе.

Юрый КАРПІЦКІ.

Экспрэс-апытанне маладзечанцаў

## Наколькі верагодная пагроза тэрарызму ў Маладзечне?



**Марына Пешкур, прадавец:**
– Верагодная, таму што шмат паказваюць па тэлевізару. Гэтая ідэя каму-небудзь прыйдзе.



**Павел Вяршыла, слесар-рамонтнік:**
– Ніякай пагрозы. Я пражыў ужо 53 гады, і ніколі нічога не было.



**Сяргей Іўкоў, навучэнец ПТВ-87:**
– Мінімальная. Каму патрэбны гэты калгас! Магчымае такое ў Мінску. Горад большы.



**Лідзія Колабава, пенсіянерка:**
– Не, у нас усё ціха. Мы нікога не чапаем, і нас не трэба чапаць.



**Таццяна Жураўлёва, прадавец:**
– Не ведаю, магчыма, верагодная. Спадзяюся, што міліцыя нас абароніць, але патрэбны спецыяльны аддзел.



**Аксана Шваб, працуе ў кіёску "Саюздруку":**
– Не ведаю. Але Маладзечна – спакойны горад, і тут не павінна быць тэрарызму.

**Фотаапытанне падрыхтавалі Вольга ПІЛІПЕНКА і Юрый КАРПІЦКІ.**

■ КАРЫСНА ВЕДАЦЬ

# Сертыфікацыя

Нацыянальная сістэма сертыфікацыі, у адпаведнасці з заканадаўствам Беларусі, прадугледжвае правядзенне абавязковай і добраахвотнай сертыфікацыі. Найменне прадукцыі, якая падлягае абавязковай сертыфікацыі ў галіне пажарнай бяспекі, вызначае Галоўны дзяржаўны інспектар Рэспублікі Беларусь па пажарным наглядзе.

У цяперашні час абавязковай сертыфікацыі на адпаведнасць патрабаванням пажарнай бяспекі, у адпаведнасці з загадам Галоўнага дзяржаўнага інспектара № 58 ад 08.09.99 года, падлягаюць сродкі забеспячэння пажарнай бяспекі, матэрыялы для аддзелкі будынкаў і збудаванняў, будаўнічыя канструкцыі і вырабы, электратэхнічныя вырабы.

Сертыфікат адпаведнасці можа быць выдадзены на прадукцыю, што выпускаецца серыйна, на партыю прадукцыі або на кожны выраб, у залежнасці ад выбранай схемы сертыфікацыі. Тэрмін дзеяння сертыфіката на партыю прадукцыі ўстанаўліваецца органам па сертыфікацыі ў кожным канкрэтным выпадку, але не больш за тэрмін годнасці прадукцыі ці тэрмін захоўвання.

Дакументы, якія пацвярджаюць сертыфікацыю прадукцыі.

Па-першае, арыгінал сертыфіката, афармлены на спецыяльным бланку, падпісаны кіраўніком органа па сертыфікацыі і замацаваны пячаткай органа. Па-другое, копія сертыфіката, выкананая на спецыяльным абароненым бланку для копій, завераная подпісам асобы, якая рабіла капіраванне, і завераная "сіняй" пячаткай органа па сертыфікацыі. Па-трэцяе, знак адпаведнасці Нацыянальнай сістэмы сертыфікацыі па РСТ Беларусі 915. Знак адпаведнасці наносіцца на кожны выраб або спажывецкую ўпакоўку, або суправаджальную дакументацыю прадукцыі, што выпускаецца серыйна, на якія выдадзены сертыфікат.

Для прызнання сертыфіката, выдадзенага ў рамках сістэм сертыфікацыі, да якіх далучылася Рэспубліка Беларусь і з якімі заключанае пагадненне аб узаемным прызнанні вынікаў сертыфікацыі, заяўнік накіроўвае ў орган па сертыфікацыі ці Дзяржстандарт Рэспублікі Беларусь заяўку на прызнанне сертыфіката, пасля чаго замежны сертыфікат пераафармляецца на сертыфікат Рэспублікі Беларусь.

Сертыфікаты, выдадзеныя ў сістэмах сертыфікацыі краін, з якімі падпісанае пагадненне аб узаемным прызнанні сертыфікатаў на прадукцыю, выробленую ў трэціх краінах, не прызнаюцца.

Загадам Дзяржаўнага мытнага камітэта Рэспублікі Беларусь устаноўлена, што дазвол на ўвоз у рэспубліку замежнай прадукцыі, якая падлягае абавязковай сертыфікацыі, выдаецца толькі пасля правядзення сертыфікацыі партыі прывезенай прадукцыі або пры прадастаўленні копіі сертыфіката адпаведнасці, выдадзенага на яе серыйную вытворчасць.

**Аляксандр Шылак, начальнік Мінскага абласнога ўпраўлення Міністэрства па надзвычайных сітуацыях РБ.**

■ ВЫТВОРЧАСЦЬ

# Завалімся валожынскім сырам

**ВАЛОЖЫН. За 10 месяцаў аб'ём прамысловай вытворчасці на ААТ "Масласырзавод", у параўнанні з мінулым годам, склаў 160%.**

Дырэктар завода **Уладзімір Круглік**, які працуе на гэтай пасадзе менш за год, тлумачыць стабільнасць прадпрыемства наступным чынам:

– Мы дасягнулі такіх вынікаў за кошт сумеснай працы з райвыканкомам.

На наступны сезон прадпрыемства плануе асвоіць новы гатунак – "Валагодскае масла" і павялічыць выпуск кілбасных сыроў у тры разы (сёння ў адну змену робяць 800–1000 кілаграмаў). А галоўная мэта – замацаваць і ўмацаваць пазіцыі ў Расіі. Сёлета туды прадалі прадукцыі на 864 тысячы долараў.

Сёння на заводзе працуюць каля 200 чалавек, а сярэдняя зарплата складае 100 тысяч рублёў. Летам некаторыя работнікі адпачывалі на Чорным моры. Цяпер на заводзе чакаюць навагодніх падарункаў.

Уладзімір Круглік гаворыць:

– Нашае прадпрыемства – гэта сям'я. Тут усе роўныя і кожны выконвае толькі свае абавязкі.

Адзіная праблема – падрыхтоўка прадпрыемства да сезона і рамонт усіх памяшканняў, але яе вырашаць уласнымі намаганнямі.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Валожынскі масласырзавод. Ганна Бітэль упакоўвае плаўлены кілбасны сыр.**

■ БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

# Рыбак Гатаўскі завітаў на кірмаш

*У вёсцы Кабыльнік у 1885 годзе праводзілася штогод пяць кірмашоў.*

*У 1901 годзе адзін раз у месяц адбываліся кірмашы па аўторках.*

*30 ліпеня 1964 года Кабыльнік перайменаваны ў вёску Нарач.*

*(Хроніка-дакументальная кніга "Памяць" Мядзельскага раёна).*

Вы не забыліся, як я, **Рыбак Гатаўскі**, падарожнічаў узбярэжкам возера Нарач? Цяга да наведвання новых мясцін, сустрэч з сябрамі, знаёмымі прывяла мяне ў Кабыльнік.

Якраз трапіў у суботу, калі шумеў, грымеў базар. Захацелася набыць аўдыёкасету з беларускімі песнямі, каб потым паслаць сябру ў недалёкае замежжа – няхай часцей успамінае родны край! Папрасіў паказаць касету з "Зоркай Венерай", "Алесяй", песнямі пра Мінск, Нёман, Нарач. Прадавец глянуў на мяне, як на дзівака, і адказаў:

– Чаго няма, таго няма. Шукайце такія песні ў аматараў, мо ў каго ёсць творы ў выкананні **Данчыка**.

Незадаволены такім адказам, накіраваўся да палаткі, дзе прадавалі літаратуру. Тут дзяўчаткі-прыгажуні цікавіліся кнігамі пра будучае сямейнае жыццё, як спадабацца кавалерам. Я папрасіў, каб прадалі сувеніры, на якіх будуць Нарач, Блакітныя азёры, Нарачанскі Нацыянальны парк.

Прадавец прашчабятала:

– Раз у Мінску не друкуецца і не вырабляецца тое, што вы просіце, то мы не можам гэтым гандляваць.

Зусім сапсаваўся настрой. Збіраўся пакінуць базар. Але хтосьці паляпаў адзаду па плячы. Азірнуўся. Гэта быў унук таго рыбака **Аляксея Субача**, які склаў песню "Нарачанка". Яна заклікала сялян змагацца за свабодную лоўлю рыбы пры панскай Польшчы.

– Даўно бачыліся, нейкі сумны, не пакрыўдзіў хто? Мо прыехаў на машыне і збіў цэментны слуп? – дапытваўся жартаўнік.

– Ты ж ведаеш, што ў мяне няма ніякага аўтатранспарту, толькі старэнькі веласіпед.

– Пра слуп я пажартаваў. Не глядзі пад ногі, уздымі вышэй галаву і кінь позірк у бок Дома культуры.

– Нічога незвычайнага не бачу.

– Няўжо не бачыш ліхтароў? Да дзесятка іх разбітыя хуліганамі. Не першы раз так робяць. І ніхто не адказаў.

- Я паставіў бы новыя плафоны на слупах і прапанаваў міліцыянерам некалькі начэй папільнаваць. Калі нехта падзецца, няхай за ўсю шкоду заплаціць.

Ідзем далей. Ля адной палаткі мажная маладзіца цікавіцца коштам спіртаметра. Мой сябра пытаецца ў кабеты:

– Колькі будзе мець градусаў тое, што збіраецеся вырабіць?

– Не менш сарака. Не верыце? Прыязджайце на дэгустацыю.

Далі згоду (адрас не называем, каб і яшчэ хтосьці не зазірнуў).

– Закуску не рыхтуйце. З сабой прывязем вэнджанага вугра. У курортным пасёлку яго прадаюць у неабмежаванай колькасці, з раніцы да вечара. Цэны, праўда, кусаюцца.

Сябра прапанаваў заглянуць да адной палаткі:

– Я там купіў такую кілбасу, што еў толькі адзін. Дамашнія адмовіліся. Вырабляюць яе на Астравеччыне. Цана памяркоўная, выгляд так сабе. Дома на этыкетцы прачытаў, што кілбаса выробленая з каніны.

– Ну і што было далей?

– Палічыў, што конь – чыстая жывёліна, не будзе есці брудны корм. Перакуліў дома чарку і закусіў той кілбасой. Дрэнна не стала.

Нейкая бабуля выходзіла з магазіна з дзвюма вялікімі сумкамі, з іх тырчэлі бутэлькі віна. Падумаў, будзе адзначаць нейкі юбілей.

– Робіць запас на ноч, – гаворыць сябра.

– ???

Выпівохам і ноччу хочацца прамачыць горла. А дзе ўзяць? Магазіны, ларкі на замку. Вось яны і спяшаюцца да бабуль і ўздымаюць настрой. Але плацяць даражэй, чым днём у магазіне. Бабулькам – заработак. П'яніцы не лічацца з рублямі.

Ля іншай палаткі пачуў, як пыталася прадавец з суседняй, якія ёсць астравы на Міжземным моры. Падумалася, што разбагацела і хоча там адпачыць. Аказалася, што разгадвае крыжаванку.

Купіў і я памідораў, салёнага пячэння, грэцкіх круп, алею, яек. Накіраваўся на аўтобусны прыпынак. Зноў трапіўся сябрук. Я яму задаў пытанне, чаму яго жонка не носіць завушніц, браслетаў, кольцаў ды іншых упрыгожванняў.

– Э, думаеш, не адкажу. Таму што выйшла замуж па каханні.

Вось і ўсё маё падарожжа на кірмаш.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ, к. п. Нарач.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 29 лістапада | 6 снежня |
|---|---|---|
| Долар | 1538,00 руб. | 1546,00 руб. |
| Нямецкая марка | 696,25 руб. | 705,26 руб. |
| Літ | 384,56 руб. | 386,56 руб. |
| Расійскі рубель | 51,38 руб. | 51,64 руб. |
| Злоты | 375,53 руб. | 383,43 руб. |
| ЕЎРА | 1361,75 руб. | 1379,42 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1550 – 1570 руб. | 1560 – 1580 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 28.11 | 5.12 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2500 | 2480 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 7700 | 7700 |
| Сасіскі, 1 кг | 3280 | 3280 |
| Селядзец, 1 кг | 1950 | 1950 |
| Рыс, 1 кг | 540 | 530 |
| Грэчка, 1 кг | 430 | 440 |
| Цукар, 1 кг | 675 | 675 |
| Алей, 1 л | 1300 | 1300 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 950 | 950 |
| Маянэз, 200 г | 300 | 310 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1700 | 1700 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 530 | 550 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 550 | 550 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 350 | 350 |
| Капуста, 1 кг | 160 | 200 |
| Лімоны, 1 кг | 1200 | 1300 |
| Апельсіны, 1 кг | 1100 | 1200 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1500 | 1500 |
| Масла, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Тварог, 1 кг | 1200 | 1400 |
| Малако, 1,5 л | 500 | 600 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1700 | 1600 |
| Бульба, 1 вядро | 1800 | 1800 |
| Морква, 1 кг | 300 | 300 |
| Яблыкі, 1 кг | 400 | 450 |

■ «РГ»-СТАТЫСТЫКА

## Беспрацоўе ў рэгіёне на 1 снежня

| | Колькасць беспрацоўных на 1 снежня | Узровень беспрацоўя |
|---|---|---|
| Маладзечна | 1521 (+229) чал. | 2,5% |
| Маладзечанскі раён | 312 (+90) чал. | 1,25% |
| Астравецкі раён | 367 (+50) чал. | 2,51% |
| Ашмянскі раён | звестак не прадаставіў | |
| Валожынскі раён | 199 (+19) чал. | 0,93% |
| Вілейскі раён | 402 (-95) чал. | 1,25% |
| Мядзельскі раён | 264 (+50) чал. | 1,4% |
| Смаргонскі раён | 1121 (+12) чал. | 3,34% |

У дужках паказаныя змяненні ў параўнанні з леташнім снежнем.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ СПАЖЫВЕЦКІЯ КЛОПАТЫ

# Аказаўся ў меншасці

**МАЛАДЗЕЧНА. Жыхар горада заключыў дагавор з арганізацыяй на правядзенне пакета каналаў кабельнага тэлебачання. Прайшлі два месяцы, на працягу якіх фірма была абавязаная аказаць паслугі, а каналаў у тэлевізары маладзечанца больш не стала.**

Ён патэлефанаваў у арганізацыю. Спачатку параілі лепш настроіць тэлевізар. Гэта не дапамагло. І потым спажыўцу нічога канкрэтнага па тэрмінах падключэння не сказалі. Мужчына напісаў заяву ў Маладзечанскую арганізацыю абароны спажыўцоў. Ён папрасіў высветліць, калі можна ўбачыць доўгачаканыя каналы. Вызвалі прадстаўніка фірмы, які паабяцаў разабрацца. Аказалася, што з шматкватэрнага дома, у якім жыве спажывец, толькі ён адзін пажадаў падключыцца да кабельнага тэлебачання і фірма згодная вярнуць маладзечанцу грошы. Кабельных каналаў ён пакуль так і не ўбачыць.

# Няякасны хлеб – звяртайся ў санстанцыю

**МАЛАДЗЕЧНА. Жанчына прынесла ў рэдакцыю ражок. Гэты хлебабулачны выраб яна купіла вечарам 29 лістапада ў адным з гарадскіх магазінаў.**

Па тэхналогіі, у ражку не прадугледжана дабавак. Але ўнутры была іншародная маса. Жанчына падазрае, што гэта звычайны пясок. Падобныя рэчывы сустракаюцца ў розных месцах ражка. Спажывец цікавілася, што ёй далей рабіць.

Старшыня Маладзечанскай арганізацыі абароны спажыўцоў **Уладзімір Клешч** параіў звярнуцца ў Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі. Яны правядуць экспертызу і дадуць заключэнне – якасны гэта прадукт ці не. І калі хлеб акажацца неналежнай якасці, то спажывец мае права звярнуцца на хлебазавод з прэтэнзіяй і ўказаць памер кампенсацыі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ПАРТРЭТ

# Аўтамабіль не раскоша, а сродак дысцыплінаванасці

**МАЛАДЗЕЧНА. У 30-я гады мінулага стагоддзя на абсягах СССР быў папулярны заклік "Моладзь – на самалёты!". У наш жа час гэта некалькі страціла сваю актуальнасць, затое вельмі заўважны прыток маладых людзей на аўтадарогі. Юнакі і дзяўчаты ліха кіруюць усемагчымымі транспартнымі сродкамі, што ўключаюць у сябе і веласіпед, і мапед, і матацыкл, і, вядома, аўтамабіль.**

Сёння ў нас у гасцях начальнік ДАІ Маладзечанскага ГРАУС **Уладзімір Балкоўскі**.

**– Як бы вы ўспрынялі заклік: "Моладзь – на аўтамабілі!"?**

– З перасцярогай. Выцякае яна з недысцыплінаванасці многіх маладых людзей. Вось каб наша моладзь была выхаваная ў духу павагі да ўсяго, тады іншая справа. А то прабелы ў сямейным і школьным выхаванні нярэдка даводзіцца запаўняць інспектарам ДАІ (смяецца).

**– Ці бываюць у ДАІ выпадкі дысцыплінарных праступкаў? Калі так, то якога характару?**

– Сур'ёзных парушэнняў зафіксавана не было.

**– Ваша стаўленне да анекдота: "Выйграў супрацоўнік ДАІ мільён. У яго пытаюцца, што ён будзе рабіць з такімі грашыма. Адказ: "Куплю скрыжаванне і буду жыць, як усе нармальныя людзі".**

– Не асабліва. Ведаю анекдоты пра нас і больш арыгінальныя. Напрыклад? "Круты 600-ы "Мерс" уразаецца ў будаўнічы каток. Прыязджае інспектар. Ходзіць-ходзіць, потым падыходзіць да вадзіцеля катка і гаворыць: "Ну, цяпер, дарагі, расказвай, як абганяў, як падразаў".

А вось выпадак з жыцця. Аднойчы аднаму з аўтараў матэрыялу давялося назіраць, як у ДАІ ля дзвярэй кабінета капітана міліцыі **Сяргея Сальнікава** сабралася ўнушальная чарга, накшталт тых, што калісьці ўтвараліся ў "алкагольных" аддзелах магазінаў. І не дзіва: на шыльдачцы дзвярэй быў пазначаны час прыёму – 90 хвілін на тыдзень. Аказалася, што ў чарзе сабраліся курсанты арганізацый, што здзяйсняюць навучанне маладых вадзіцеляў. Згодна з праграмай аўтакурсаў, яны абавязаныя несці 15-гадзіннае дзяжурства на скрыжаваннях і фіксаваць рэальныя парушэнні вадзіцелямі і пешаходамі правілаў дарожнага руху. Іх заўвагі ўносяцца ў пратакол, які і павінен завізаваць Сальнікаў. Без яго подпісу курсант не дапускаецца да здачы экзаменаў. Тады аўтар запытаўся ў Балкоўскага, ці нельга штосьці прыдумаць, каб народ не пакутаваў у калідорах ДАІ. Адказ быў кароткі: падумаем. А на наступны дзень чарга прапала! Аказваецца, замест вечна занятага сваёй службай на дарогах капітана прыём вёў лейтэнант **Аляксандр Грыбоўскі** і яму дапамагалі яшчэ трое.

**– А хто ў Маладзечне і раёне рыхтуе вадзіцеляў? Якія ўзаемаадносіны ДАІ з імі?**

– На тэрыторыі горада размешчаны тры навучальныя арганізацыіі, якія займаюцца падрыхтоўкай вадзіцеляў транспартных сродкаў. Гэта вучэбны аўтамабільны камбінат (ВАК), вучэбна-тэхнічнае прадпрыемства Беларускага абаронча-спартыўнага тэхнічнага таварыства (ВТ БелАСТТ), філіял мінскай аўташколы Беларускага таварыства аўтамотааматараў (АШ БТАМА).

Кантроль ДАІ за ходам навучальнага працэсу і выкананнем вучэбнай праграмы здзяйсняецца не радзей за 1–2 разы за перыяд навучання ў кожнай групе. Летась такіх праверак было 119. Акрамя таго, адзін раз на пяць год праводзіцца абследаванне навучальных арганізацый на прадмет ліцэнзійнай дзейнасці. У 1999 годзе вышэйназваныя арганізацыі атрымалі адпаведныя ліцэнзіі на падрыхтоўку вадзіцеляў аўтатранспартных сродкаў. Год таму было сфарміравана 54 навучальныя групы з агульнай колькасцю 1369 чалавек.

**– Ці вядомыя ў ДАІ лепшыя выкладчыкі і майстры-інструктары?**

– З лепшага боку можна адзначыць падрыхтоўку вадзіцеляў транспартных сродкаў катэгорыі "Б" (легкавыя аўтамабілі) і перавод з катэгорыі "Б" і "С" (грузавыя аўтамабілі) у катэгорыю "Д" (аўтобусы ўмяшчальнасцю больш за 8 чалавек) курсы вадзіцеляў пры БелАСТТ (дырэктар Ілья Малахаў), дзе летась у 15 вучэбных групах прайшлі навучанне 366 чалавек. З першага разу экзамен у ДАІ не здалі па тэорыі 22 чалавекі, а практычны – 38, што склала 16,3%. Добрых вынікаў у падрыхтоўцы вадзіцеляў дамагліся выкладчыкі **Леанід Гаўрыкаў, Ілья Кавалевіч**, майстар вытворчага навучання **Пётр Ярашэвіч**.

**– А калі вы самі атрымалі правы?**

– У 17 год. Прытым, з першага разу. Экзаменаваў мяне **Віктар Мумрыкаў**, ён і прапанаваў працаваць у ДАІ.

**– Ваша хобі неяк звязанае з работай?**

– Не вельмі. Люблю футбол. Кожны чацвер мы гуляем калектывам у спартзале ЗМК.

**Уладзімір ЗВЕРНІК, Вольга ПІЛІПЕНКА.**

**Даведка «РГ»**



**Уладзімір Балкоўскі. Нарадзіўся 27 красавіка 1970 года ў Маладзечне. У 1977 годзе скончыў СШ №10, у 1993 годзе – БДПА. Жанаты, жонка Наталля працуе медсястрой. Двое дзяцей. У ДАІ з 1995 года.**

■ ШКОЛА ЖЫЦЦЯ

# Не паддавайцеся эмоцыям

На тую радасную абставіну, што мы скончылі вадзіцельскія курсы і атрымалі паперку аб тым, што мы сапраўдныя вадзіцелі, навука псіхалогія глядзіць неяк скептычна. Чаму ж, – спытаем навуку псіхалогію, – ты так недаверліва глядзіш на нашыя пасведчанні?

Справа ў тым, – гаворыць навука ціхім голасам, – што для таго, каб вецярком прамесціся па аўтамагістралі, адных навыкаў аўташколы часцяком бывае мала. На прафесіяналізм вадзіцеля вызначаючую ролю аказваюць асабістыя і псіхалагічныя якасці. Напрыклад, вадзіцелі, якія валодаюць прыкладна аднолькавым працэнтам прафесіяналізму, добрай рэакцыяй, адным словам, усімі неабходнымі для ваджэння якасцямі, чамусьці падраздзяляюцца на дзве катэгорыі: адныя пастаянна трапляюць у аварыі, а іншыя – практычна ніколі.

Тлумачыцца гэта не толькі рознай колькасцю бензіну ці тасолу, але і псіхалагічных праблем, якія носіць у сабе чалавек. Чым больш чалавек загружаны праблемамі, тым горш рэагуе на дарожную абстаноўку і схільны трапляць у аварыі. Такія вадзіцелі часцяком маюць агульныя рысы. Яны звычайна занадта запальчывыя і не надта гаваркія. Мала таго, у гэтых запальчывых маўчуноў, якіх пастаянна пераследуе паласа няўдач, нават нечаканая светлая паласа можа стаць прычынай чарговага дарожна-транпартнага здарэння. Дзе ж выйсце, спытаемся мы, трывожна пералічваючы свае палосы.

Параіць можна толькі адно. Калі назіраецца падазронае нешанцаванне, самае правільнае выйсце – звярнуцца да псіхолага. Ці прыняць да ўвагі ўсё напісанае вышэй.

Калі вы кіруеце аўтамабілем, старайцеся не паддавацца эмоцыям. Перажыванні, як негатыўныя, так і пазітыўныя, і няўважлівасць – вось асноўныя крыніцы небяспечнасці на дарозе.

**Павел СІДАРОВІЧ.**

■ КАРЫСНА ВЕДАЦЬ

# Акумулятар

Каб доўга служыў, трэба пра яго пастаянна дбаць.

Акумулятар назапашвае электрычную энергію, якой перш за ўсё мы карыстаемся падчас старту рухавіка. У час руху энергію выпрацоўвае генератар. З-за таго, што ў момант старту рухавіка акумулятар аддае вельмі многа энергіі, генератар выконвае яшчэ адну функцыю: падчас язды зараджае акумулятар.

Каб генератар працаваў правільна, трэба, перш за ўсё, забяспечыць яму патрэбную напругу. Гэтую функцыю выконвае адпаведна нацягнуты клінавы рэмень. Малое нацяжэнне прыводзіць да таго, што ён будзе праслізгваць – генератар не стане выпрацоўваць неабходную колькасць энергіі. Вельмі тугое нацяжэнне прыводзіць да хуткага выхаду генератара са строю. Добра нацягнуты рэмень прагінаецца на 10-15 мм, калі на яго моцна націснуць пальцам.

Звычайна рэсурс рамяня – 40-60 тысяч км прабегу аўтамабіля. Варта купляць новыя мадэлі рамянёў – зубчатыя.

**Павел СІДАРОВІЧ.**

■ ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# Рашэнне суда прынятае

У нумары 21 нашай газеты ад 25 сакавіка быў апублікаваны матэрыял «Як правільна купляць турпуцёўкі», у якім па матэрыялах судовай справы расказвалася аб неналежным выкананні турыстычнай фірмай "АлатанТур" сваіх абавязацельстваў у дачыненні да сям'і маладзечанцаў **Манкусаў**. Тады ў гарадскім судзе знайшла пацверджанне скарга сям'і Манкусаў аб неналежным выкананні абавязацельстваў перад імі з боку СП «АлатанТур». Часткова маладзечанцы атрымалі і кампенсацыю за маральны ўрон.

Пасля гэтай публікацыі ў рэдакцыю звярнуўся дырэктар філіяла СП «АлатанТур» **В. Падвербны**. Ён палічыў, што згаданы матэрыял падрыхтаваны аднабакова, без уліку думкі турфірмы. Рэдакцыя дала выказацца і яму (публікацыя "Новыя ахвяры "Залатой ліхаманкі"), прадстаўніку другога боку канфлікту, адначасова змясціла каментар і са сваім пунктам погляду.

Прайшло яшчэ адно пасяджэнне суда, дзе сям'я Манкусаў выказала прэтэнзіі да дырэктара Маладзечанскага філіяла СП «АлатанТур», аўтара артыкула "Новыя ахвяры "Залатой ліхаманкі" Васіля Падвербнага. В. Падвербны прайграў яшчэ адзін судовы працэс, які вяла на гэты раз намеснік старшыні гарадскога суда Ірына Рудзянкова. Суд вырашыў:

«Прызнаць звесткі, апублікаваныя ў «Рэгіянальнай газеце» №24 ад 15 ліпеня 2001 г. у артыкуле «Новыя ахвяры «залатой ліхаманкі» у цэлым не адпаведнымі сапраўднасці, а звесткі пра вымаганне, шантаж і скандал ганебнымі для гонару і годнасці Манкус Людмілы Аляксандраўны і Манкуса Віктара Альгімантасавіча.

Спагнаць з СП «АлатанТур» на карысць Манкус Людмілы Аляксандраўны і Манкуса Віктара Альгімантасавіча матэрыяльную кампенсацыю маральнага ўрону па 150000 руб. кожнаму, а таксама судовыя выдаткі ў памеры 167500 руб.»

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

■ МІНУЛАЕ

# Як мы «працавалі» на немцаў

З бязмежнасці лясоў партызанскай зоны сабрала наша вёска пад свае стрэхі ўжо амаль усіх. І мы, падлеткі, зрабілі першыя крокі мірнага жыцця: вывелі на пашу кароў. Апошнія месяцы вёска зусім пуставала, і трава на папарах так вымахала, што каровы аж хаваліся ў ёй.

Трэба прызнацца: мы зрабіліся такімі задавакамі! Хто выхваляецца нямецкай формай, хто – толькі мундзірам ці штанамі. А вось пілоткі былі ў кожнага з нас. Каровы, занятыя сваёй прыемнай справай, не перашкаджаюць нашым прыемным забавам.

Раптам бачым: па стракатым няскошаным лузе ад Асінніка шпарыць двое ў нямецкай форме. Паўз вёску. Мы іх заўважылі загадзя і маглі б лёгка знікнуць у жыце, бо да яго пару крокаў. Але навошта? Немцы ж уцяклі дзён пяць таму, тут глыбокі тыл. А вёска наша – вось, побач. У ёй, у тым канцы, – савецкі палявы шпіталь. Ды і ведалі: калі ідуць немцы, то гарлапаняць на ўсю акругу. А гэтыя ідуць моўчкі, нібы вады ў рот набралі. Значыць, рашаем, гэта партызаны, якіх мы сустракалі і ў нямецкай форме.

Падыходзяць двое з вінтоўкамі. На дзягах – патранташы, за дзягамі – па дзве гранаты з драўлянымі ручкамі. Адзін з іх залапатаў па-нямецку. Усялякія сумненні прэч: яны... Пытаецца, у якім баку Мінск, Куранец, Вілейка, Вільня. Прыглушаным голасам пытае. Зразумела: патрэбны карацейшы напрамак дадому, каб хутчэй знесці ногі. Затым адшпільвае біклажку і дае мне. Просіць надаіць малака. Так нязвыкла чуць, што просіць, – "бітэ"... Бліжэй за ўсіх пасвілася Сівуля, самая рахманая ў статку. Лявонава. Ён самы высокі сярод нас, яму ўжо шаснаццаць. Але выбар даіць выпаў на мяне. Мусіць, "высокі давер" аказалі мне таму, што я з імі някепска гаварыў па-нямецку.

Сеў я пад Сівулю, у левай руцэ біклажка. Ніколі ў жыцці не даіў. Але ж спроба – не хвароба. Правай рукой пацягнуў за сасок – белы цёплы струменьчык абліў мне ногі. Пацягнуў яшчэ раз – забяліў бот немцу. Цягаў-цягаў... Ужо і ногі сабе вымыў, а ў вузенькае горлачка біклагі біклажкі – ні кроплі. Хоць і вучылі мяне дарослыя: рабі так, каб сабак не дражніць, і людзей не смяшыць – але атрымлівалася наадварот.

Тут немец "здымае" мяне з працы (відаць, цярпенне ў яго лопнула) ды садзіць пад карову Лявона. У таго справа таксама не нашмат лепш пайшла: струменьчык трапляў то на левую руку, то на біклажку. Толькі ў тое горлачка – ні кроплі.

Дайшло да немца, нарэшце, што ад нас, няўмекаў, не бачыць яму малака, як і з таго казла. Адштурхнуў ён Лявона, паставіў біклажку на зямлю, сеў пад карову на кукішкі ды як даў у дзве рукі такога спрыту! Зацурчэлі белыя струменьчыкі ў самае-самае горлачка. Са снайперскай меткасцю. Імгненна запоўнілася біклажка пенным сырадоем. Тут жа "даяр" адглынуў палову біклажкі і перадаў яе спадарожніку. Затым яны зніклі ў жыце, толькі іх і бачылі.

Мы – за кароў ды ходу ў вёску. Там тэрмінова паведамілі савецкім салдатам пра гэтую нечаканую сустрэчу з немцамі.

І што дзіўна – умеў жа немец даіць кароў цудоўна. Відаць, прафесіянала заткнуў бы за пояс у гэтай справе. Ды, мусіць, фанабэрысты голас яго панскай крыві патрабаваў, каб на яго, заваёўніка, працавалі недастойныя славяне. А тут на шляху ўцёкаў трапіліся падлеткі, якія не маглі немцам дапамагчы наталіць смагу. І давялося аднаму з іх наступіць на горла ўласнай пыхлівасці звышчалавека ды праявіць зайздросны сялянскі імпэт даяра.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ, Вілейка.**

## Віталь Макрыцкі і Сяргей Дараховіч:
# «Маладзечна на сваім месцы. Пакуль...»

Разам гулялі ў "Забудове", разам прыйшлі ў вылятаючы з вышэйшай лігі ФК "Маладзечна", разам былі пры стварэнні новай каманды з прыходам **Людаса Румбуціса**, разам перамаглі ў першай лізе, разам выйшлі ў вышэйшую, разам адпрацавалі ў міжсезонні. Адзін правёў усе матчы чэмпіянату, у другога атрымалася далёка не ўсё. **Віталь Макрыцкі** і **Сяргей Дараховіч**. Нападаючы і паўабаронца. Маладзечанцы застаюцца яшчэ на адзін сезон дома. Кожны са сваімі мэтамі і надзеямі.


Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.
Сяргей Дараховіч.


Віталь Макрыцкі (злева).
Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

### Віталь Макрыцкі: «У некаторых момантах проста не хапала майстэрства і досведу»

– Перад пачаткам чэмпіянату спадзяваўся толькі на сістэматычныя выхады на замену. У камандзе быў даволі дасведчаны тандэм **Шаўроў–Турчыновіч**. Трэба было шмат працаваць, каб дасягнуць іх узроўню і пастаянна трапляць у асноўны склад. Але ўсё выйшла крыху інакш: Шаўроў пакінуў каманду пасля двух тураў. Тады і настала мая чарга даказваць сваю прафпрыгоднасць.

**– Можна сказаць, канкурэнцыі вы не адчувалі?**

– Сярод нападаючых яе сапраўды амаль не было. Іншая справа, што Людас Іонавіч змяняў тактыку такім чынам, што большасць сустрэч праводзілі з адным чыстым нападаючым, а майстэрства Турчыновіча не выклікала сумнення. Андрэй мала рухаўся на полі, але сваю справу выконваў, а гэта галоўнае. Калі яго не хапала на ўвесь матч, маёй задачай было выйсці і дацiснуць саперніка. А яшчэ трэнер выводзіў **Міхалёва** ці **Тартоўскага** наперад. Значыць, канкурэнцыя, усё ж, была.

**– Два галы за 26 матчаў для нападаючага мала...**

– Поўнасцю згодны. У нейкія моманты проста не хапала майстэрства і досведу. Вывад адзін – трэба яшчэ шмат працаваць.

**– У большасці выпадкаў, нягледзячы на вашу форму, Людас Румбуціс стабільна выпускаў вас на поле.**

– На мой погляд, Людас Іонавіч робіць стаўку на "хуткія ногі". Магчыма, толькі гэтым можна растлумачыць яго рашэнні. Прыклад таму. Я выходзіў, а **Аляксандр Багайчук** – не. На думку трэнера, Саша тармазіў бы ў цэнтры поля пераход ад абароны да атакі. Хаця паўабаронца быў у нядрэннай форме. А пасля ж і Турчыновіч зламаўся. Выбару ў лініі атакі ўжо не было – толькі я і **Сідарэнка**.

**– Рост над сабой заўважылі, калі адгуляўлялі поўны сезон у вышэйшай лізе?**

– Дзякуючы Людасу Румбуцісу, я за гэтыя два гады шмат чаму навучыўся. Фізічная падрыхтоўка і раней была на належным узроўні, а вось у плане тактычных дзеянняў ужо значна лепш.

**– Што плануеце рабіць далей?**

– Цяпер гуляем з маладзечанцамі турнір па міні-футболе "Залатая восень". Потым месяц так званых зімовых канікулаў. А затым зноў міжсезонне і там новы сезон. Спадзяюся, ён будзе значна лепшы па выніках як для мяне асабіста, так і для клуба.

### Сяргей Дараховіч: «ФК «Маладзечна-2000» заняў сваё месца»

**– Сезон не самы лепшы...**

– Не тое слова. Адпрацаваў міжсезонне, стараўся, лічу, паказваў даволі добры ўзровень ґульні, але ў склад так і не трапіў. Прычым, усё ішло добра да матча ў Магілёве з "Днепрам-Трансмашам", дзе я выйшаў на замену і ў канчатковым 2:4 аказаўся крайнім. Дубль, дубль, не знаходзілася месца нават у ліку васемнаццаці, а затым і ўвогуле атрымаў траўму.

**– Цяпер змяніць клуб таксама немагчыма.**

– Кантракт у мяне яшчэ на год, ды і не загуляў я яшчэ ў такой ступені, каб спатрэбіўся нейкаму клубу. Застаецца зноў працаваць і спадзявацца, што ў наступным годзе будзе ўсё добра.

**– Як вам увогуле сезон для маладзечанскй каманды?**

– Мы занялі сваё месца. Перамаглі аутсайдэраў і падзялілі ачкі з суседзямі па турнірнай табліцы. Было складана, асабліва падчас нашай бязвыйгрышнай серыі. Але мы пацвердзілі, што невыпадкова захавалі прапіску ў вышэйшай лізе ў сустрэчах з "Ведрычам" і "Нафтанам", адабралі ачкі ў некаторых лідэраў. Добрая гульня была дома з БАТЭ, "Дняпром". Былі яшчэ добрыя матчы, дзе каманда дэманстравала нядрэнны футбол, але не хапала зусім крыху, каб дабіцца выніку. Атрымлівалася ўсё наадварот.

**– Першынство дублёраў патрэбнае?**

– Гэта добрая школа для моладзі, там можна набіраць форму пасля траўмы. Асабіста ў мяне турнір другіх нумароў вызывае адмоўныя эмоцыі. Шмат працаваў, гуляў, але працягу, узнагароды не было. Выходзіць пасля на матчы было і ўвогуле складана.

**– Будзе цяжка псіхалагічна ў наступным годзе.**

– Магчыма, але я ўжо шмат чаму навучыўся і ранейшых памылак, спадзяюся, паўтараць не буду. Футбол – гэта гульня, дзе ўсё ж такі павінна прысутнічаць логіка. Калі ў цябе ёсць мэты, калі ты працуеш, то павінен атрымаць узнагароду за сваю працу. Думаю, так і будзе.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

## Табло

■ **ШАХМАТЫ**

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёння а 18 гадзіне ў шахматным клубе "Папараць" (вуліца Забэйды-Суміцкага, 2) адбудзецца заключны этап рэгіянальнага гадавога турніру.**

Тады ж пройдзе і ўрачыстае ўзнагароджванне яго пераможцаў па выніках года. І хаця тройка лідэраў ужо вызначылася – імі сталі мацнейшыя першаразраднікі горада **Віктар Акотчык**, **Алег Дылеўскі** і **Міхаіл Дыдзік** – заключны турнір абяцае быць цікавы, а ўзнагароджванне хавае ў сабе разнастайныя сюрпрызы. І, вядома, арганізатары адзначаць не толькі тройку, што асабліва вызначылася. Так што запрашаем на турнір, запрашаем на сустрэчу з шахматамі, запрашаем на сустрэчу з новымі і старымі сябрамі і прыхільнікамі.

**Віталь КАЧАТКОЎ.**

■ **ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА**

**У Калінінградзе 23-25 лістапада прайшоў міжнародны турнір па лёгкай атлетыцы сярод юнакоў і дзяўчат 1985-87 года нараджэння "Балтыйская восень". Удзельнічала больш за 20 каманд з Польшчы, Расіі, Літвы, Латвіі, Беларусі.**

У асабістым першынстве пераможцамі і прызёрамі сталі выхаванцы ДЮСШ №1 Маладзечна: **Яўген Мучынскі** (СШ №3), 3000 метраў – І месца, 1500 м – ІІІ месца; **Сяргей Шынкевіч** (ПТУ-21), 1500 м – І месца, 3000 м – ІІІ месца; **Алена Куцкевіч** (СШ №3), 1500 м – І месца, 800 м – ІІІ месца; **Максім Церах** (СШ №4), 800 м – 1 месца; **Дзяніс Гіль** (ГПТУ-21), 3000 м – ІІ месца; **Максім Шульжэнка** (СШ №11), 400 м – ІІІ месца. У агульнакамандным заліку каманда з Маладзечна заняла трэцяе месца. Саступіла толькі гаспадарам і камандзе з Масквы.

**Леанід АРЦЕМ'ЕЎ, старшы трэнер ДЮСШ №1.**

■ **БАСКЕТБОЛ**

**МАЛАДЗЕЧНА. 23–25 лістапада адбыліся фінальныя гульні кубка Мінскай вобласці. Бралі ўдзел жаночыя каманды з Валожына, Маладзечна, Капыля і Стаўбцоў.**

Пераможцамі сталі валожынскія дзяўчаты, якія атрымалі грашовы прыз у 100 тысяч рублёў, хрустальную вазу і ганаровыя граматы.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ **ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА**

**28–29 лістапада ў лёгкаатлетычным манежы ДЮСШ №1 прайшло першынство горада сярод школ.**

Бралі ўдзел дзеці 11–14 гадоў, якія спаборнічалі ў бегу на 60, 400 і 800 метраў; кіданні мяча і скачках у даўжыню. Каманднае першынство не праводзілася. Пераможцы ў кожнай дысцыпліне атрымалі па 5 тысяч рублёў і граматы, прызёры – толькі граматы.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ **ДЗЮДО**

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні скончылася першынство Мінскай вобласці па дзюдо сярод мужчын. Удзел бралі 9 каманд.**

Пераможцамі ў камандным заліку сталі зборныя Маладзечна, Нясвіжа і Жодзіна. У асабістым заліку было 8 вагавых катэгорый. Пераможцамі сталі: **А. Мойса** (60 кг, Маладзечна), **Р. Навумовіч** (66 кг, Жодзіна), **В. Кузьмянок** (73 кг, Нясвіж), **С. Рымша** (81 кг, Барысаў), **С. Сяргееў** (90 кг, Мінск), **А. Ражкоў** (да 100 кг, Мінск), **І. Яцыновіч** (звыш за 100 кг, у абсалютнай катэгорыі, Маладзечна). Яны атрымалі па 20 тысяч рублёў і ганаровыя граматы. У снежні пройдзе першынство РБ у Мінску.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ **ШАХМАТЫ**

**У канцы лістапада ў Мінску прайшоў чэмпіянат Беларусі ў першай лізе. За 6 пуцёвак у вышэйшую лігу спаборнічала 70 шахматыстаў. Усе былі не ніжэй як кандыдаты ў майстры спорту, а 9 удзельнікаў з'яўляюцца міжнароднымі майстрамі.**

Чэмпіянат праходзіў па швейцарскай сістэме ў 9 тураў. Успамінае **Віталь Качаткоў**.

– Першую партыю выйграў без асаблівых праблем, і ўжо ў другой жараб'ёўка звяла мяне з адным з рэйтынг-фаварытаў – **Сяргеем Міхайлоўскім**. У выйгрышнай пазіцыі я нарабіў шмат памылак і прайграў. Аднак сабраўся і выйграў дзве партыі запар. Пяты тур. Зноў у лідэрах і гуляю супраць дасведчанага **Ігара Ратковіча**. Пераацаніў свае шанцы, калі атрымаў лепшую пазіцыю чорнымі, і "палез". У выніку "палкоўнік" (так яго ўсе называюць) у сваім стылі пад флажком змог зазірнуць далей. Беглы камп'ютэрны аналіз паказаў, што Ігар тонка адчуў партыю і свайго шанца не ўпусціў. Усё, здавалася, крах, таму што нават з +4, па выніках мінулага года, усе не траплялі ў шасцёрку. А ў мяне толькі +1 пасля 5 тура.

6 тур – перамога ў няпростай партыі з маладым перспектыўным **Мікалаем Аляўдзіным**, 7 тур – гульня з чэмпіёнам Беларусі сярод юнакоў **Андрэем Жыгалкам**. Чорнымі быў пастаўлены нічыйны "бэкман" – і юнак завагаўся. Пасля партыі ён развёў рукамі: нічыя нічога не давала. Восьмы тур і настройванне на цяжкую партыю з **Сяргеем Жуком** – перамога. Жаданыя +4! Апошні тур зводзіць мяне з лідэрам – майстрам **Уладзімірам Ліцвінавым**. Дарэчы, яму споўнілася 60 год. Самаму юнаму на турніры было каля 12 год.

Да апошняй партыі рыхтаваўся паўночы. Была нават знойдзеная партыя, згуляная сапернікам у 1958 годзе. Я пасля партыі спытаўся: "Колькі ж Вам было тады?". "Семнаццаць год", – быў адказ. Майстрам была прапанаваная нічыя.

У вышэйшую лігу трапілі: міжнародны майстар Уладзімір Ліцвінаў (Мінск, 2332), Ігар Ратковіч (Мінск, 2384), **Дзмітрый Навіцкі** (Мінск, 2422), міжнародны майстар **Вадзім Аляксееў** (Магілёў, 2375), міжнародны майстар **Валерый Смірноў** (Мінск, 2404), Віталь Качаткоў (Маладзечна, 2299). Шэсць міжнародных майстроў засталося за бортам узнагарод, прызоў і вышэйшай лігі.

**Віталь КАЧАТКОЎ.**

■ **МІНІ-ФУТБОЛ**

# «Залатая восень» завяршыла футбольны сезон

МАЛАДЗЕЧНА. На працягу апошніх двух тыдняў у спартыўнай зале ЗМК праводзіўся турнір па міні-футболе "Залатая восень".

Удзельнічала 19 каманд з горада і раёна. Спачатку ўсе калектывы былі разбітыя на 4 падгрупы, і два мацнейшыя выходзілі далей, дзе ўтвараліся яшчэ дзве групы па 4 каманды ў кожнай.

| Група А | Р/М | А |
|---|---|---|
| Беразінскае | 9 – 4 | 7 |
| Сябрына | 10 - 9 | 6 |
| Ветэран | 9 - 12 | 3 |
| ЗМК | 5 - 8 | 1 |

| Група Б | | |
|---|---|---|
| РосБелПраём | 17 – 10 | 7 |
| Маладзечна | 22 – 7 | 5 |
| Унікаб | 9 – 5 | 4 |
| Забудова | 3 – 29 | 0 |

Дзве лепшыя каманды з кожнай групы павінны былі стварыць на наступным этапе фінальную чацвёрку і згуляць паміж сабой.


Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.
**Наш аўтар Мікалай Хадасевіч на турніры гуляў за «Забудову».**

| | | |
|---|---|---|
| Маладзечна | 22 – 6 | 9 |
| Беразінскае | 14 – 5 | 6 |
| РосБелПраём | 21 – 21 | 3 |
| Сябрына | 10 – 29 | 0 |

"Маладзечна" на турніры было прадстаўлена мясцовымі футбалістамі ФК "Маладзечна", у склад "Сябрыны" ўваходзілі выхаванцы ДЮСШ, а беразінцам дапамагалі гульцы з дубля.

Турнір прайшоў на даволі прафесійным узроўні, не ўзнікала пэўных праблем з судзействам, удзельнічала вялікая колькасць каманд, што не можа не радаваць.

Фінальная пулька паказала, што туды трапілі сапраўды лепшыя каманды першынства, і канчатковае размеркаванне месцаў стала вядома пасля фінальнага свістка апошняга матча. Як сказаў пасля заканчэння турніру трэнер "Маладзечна" **Аляксандр Гармаза**, вынік заканамерны. Сапраўды, "Сябрыне" не хапіла досведу, "РосБелПраём" не здолеў весці барацьбу з-за адсутнасці лаўкі запасных, "Беразінскае" прадэманстравала добры ўзровень гульні, але саступіла будучым пераможцам. У "Маладзечна" выбару не было. Трэба было даказваць сваю прафесійнасць. На другім групавым этапе нечакана саступіў ЗМК.

Акрамя гульцоў ФК "Маладзечна", у турніры прынялі ўдзел **Андрэй Мілеўскі** ("Беразінскае"), **Аляксандр Вяжэвіч** ("Ветэран") (абодва гулялі толькі на другім этапе) і **Дзмітрый Ваўчок** ("РосБелПраём") у якіх цяпер адпачынак.

"Маладзечна", "Беразінскае" і "РосБелПраём" атрымалі граматы і грашовыя ўзнагароды. Па выніках апошняй стадыі спаборніцтва былі вызначаныя лепшыя футбалісты.

Лепшы варатар – **Аляксандр Мялюк** ("Беразінскае")

Лепшы бамбардзір – **Аляксей Антановіч** ("Маладзечна")

Прыз глядацкіх сімпатый – **Мікалай Абрамовіч** ("РосБелПраём").

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

Ад рэдакцыі. Наш аўтар **Мікалай Хадасевіч** на другім этапе гуляў за "Забудову" і вызначыўся голам у вароты "Маладзечна".

## ВІНШАВАНКІ

Віншую з днём нараджэння дарагую матулю **Рэгіну Рысік**! Жадаю шчасця і здароўя. *Дачка Вікторыя.*

Дарагая **Святланка**! Віншуем з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя, аптымізму, узаемнага кахання! *Галя, Лена, Галя.*

Дарагую дачушку **Алёну Кахновіч** з 20-годдзем! Жадаю моцнага здароўя, шчасця, радасці, кахання. *Мама.*

**Уладзіміра Здзіслававіча Броўку** з 50-годдзем віншуюць *сябры дзяцінства і суседзі Зянько-Махоркіны.*

Ад шчырага сэрца ў дзень юбілею
Жадаем радасці, светлай надзеі.
Шчасця табе ў будні і святы,
Хай добрыя весткі прыходзяць
у хату,
Хай будуць з табою здароўе і сіла,
Жыццё няхай будзе
доўгім, шчаслівым.

**Міраслава Зянько!**
Ад усяго сэрца віншую з днём нараджэння!
Няхай заўсёды табе спадарожнічае ўдача і акружаюць надзейныя сябры!
*Валянціна.*

## ЗНАЁМСТВЫ

Аляксандр, 25 год, прыгожы, адзінокі, без шк/зв., пазнаёміцца з дзяўчынай, не старэйшай за 25 год. 222310, Маладзечна, вул. Касманаўтаў, д.4, кв.76.

Юлія, пяшчотная, надзейная, 35 год, пазнаёміцца з надзейным мужчынам. 220113, Мінск, а/с 20.

Звычайная жанчына просіць адгукнуцца прыстойнага мужчыну да 60 год, без шк/зв. Пра сябе: 50/70/166, дзеці дарослыя. Маладзечна-6, п/п IV-ДР №745838.

Мужчына 32/170/76 пазнаёміцца з жанчынай для сур'ёзных адносін. Маладзечна-7, п/п МС 0707229.

42/178. Пазнаёмлюся з жанчынай для сур'ёзных адносін. Маладзечна-7, п/п IV-ВН №534635.

Шукаю для стварэння сям'і вельмі прыгожую і сур'ёзную даму без жыллёвых праблем. Пажадана фота. 222410, Вілейка-4, д/з 002421.

Мне 40/170/65. Вы раней не былі ў шлюбе, без дзяцей і шк/зв. Мэта — стварэнне сям'і. 222310, Маладзечна-6, п/п 529946.

■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Як Засвірскі пагарачыўся

**Янка Сасноўскі** жыве ў вёсцы, што ў паўкіламетры ад возера Свір. Ну, вядома, яшчэ з дзяцінства яго вабіла рыбалка. Лавіў на вудачку, спінінг, дарожку, калі пасталеў — набыў пару сетак, хаця добра ведаў, што такі метад лоўлі забаронены і неадназразова пападаўся ў рукі інспектараў. Так было і на гэты раз. У суседа быў юбілей і ён звярнуўся да Янкі з просьбай злавіць пару кілаграмаў свежай рыбы. Янка паабяцаў з ахвотай, бо сусед быў не скупы. "Будзе і капейка, і чарка, а хто не рызыкуе, той і не п'е шампанскага", — разважаў ён, ставячы позна вечарам сваю лепшую кітайскую сетку.


Лавіся, рыбка. Фота IREX/ProMedia.

Назаўтра раніцой ён падаўся зноў на возера. Улоў быў нядрэнны: пара шчупакоў, акуні, плотка. Карацей кажучы, рыба што трэба. Задаволены Янка з усёй моцы хутчэй веславаў да берага.

Але толькі ён пачаў замыкаць лодку, не паспеў нават схаваць рыбу і сеткі, як з-за кустоў выйшлі двое незнаёмых, якія паказалі пасведчанні работнікаў рыбнагляду. Тут у Янкі і дух заняло. Ледзь утрымаўся на нагах. Адразу ён са слязьмі на вачах пачаў прасіцца, але інспектары былі непарушныя. Адзін з іх пачаў запаўняць акт. Убачыўшы, што справы дрэнныя, Янка вырашыў пайсці на хітрасць. Ён назваўся **Засвірскім**, які жыве ў Кабыльніку і працуе ў калгасе, а сюды прыехаў да знаёмых. Праўда, у гарачцы ён назваў вуліцу, дзе жыве яго сястра. Хоць настрой у Янкі, калі ён ішоў дадому, быў ніякі, бо інспектары забралі не толькі сетку, але і рыбу. Ну, а наконт штрафу ён быў упэўнены, што ўдалося выкруціцца.

Прайшло каля месяца і Юзік нават забыўся на непрыемны выпадак. Але інспектары, не атрымаўшы квітанцыі, вырашылі заехаць па ўказаным у акце адрасе. І, як на злосць, зайшлі ў дом, дзе жыла сястра Янкі. Жанчына сустрэла іх ветліва і правяла ў залу, хаця катэгарычна сказала, што чалавека з такім прозвішчам яна не ведае і нават не чула ў Кабыльніку.

Але тут адзін з інспектараў выпадкова зірнуў на партрэт, што вісеў на сцяне і яму ўспомнілася штосьці знаёмае. Тут ён таксама пайшоў на хітрасць. Бліжэй падыйшоў да партрэта, прамовіў да жанчыны: "Здаецца з гэтым чалавекам мы разам былі на вайсковых зборах і добра сябравалі, нядрэнна было б завітаць да яго па шляху". Сястра Янкі без задняй думкі сказала і прозвішча, і месца жыхарства.

У гэты дзень інспектары заехалі па ўказаным адрасе і ўбачылі "Засвірскага", які рамантаваў старую сетку. "Прывітанне, Засвірскі", — прамовілі яны. Янка адразу зразумеў у чым справа і спачатку пачаў тлумачыць, што рамантуе сетку для агароджы ад курэй і ніякім браканьерствам не займаецца. Але ўсе довады былі дарэмныя, і заплаціў ён штраф, як гаворыцца, на ўсю катушку.

**Іосіф СПЯГЛЯНІН,**
**жыхар в. Кабыльнік**
**Мядзельскага р-на.**

■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Трэба было лепш вучыцца ў школе

Расказаў знаёмы. Быў у адным з гарадоў Саюза закрыты ваенны НДІ. Займаўся ён, у тым ліку, і оптыкай. Як у любым ваенным установе, практычна ўсе служачыя мелі званні. Запасамі спірту ў НДІ ведаў адзін прапаршчык (не будзем згадваць яго імя), ад навукі чалавек даволі далёкі. Дык вось, пачалі да яго паступаць вельмі ўжо аднолькавыя заяўкі на атрыманне спірту, ды яшчэ ў вялікай колькасці. А ў заяўцы ў графу "прадмет атрымання спірту" было ўпісана: "працірка аптычных восяў". Натуральна, у мужыка цікавасць узнікла. Прыйшоў да яго чарговы прасіцель, дае заяўку. Той у яго і спытаўся, што такое аптычная вось. Прасіцель не разгубіўся і гаворыць, маўляў, ты што, дарагі, дзе ты працуеш, гэта ж ваенная тайна. На гэтым прапаршчык і суцішыўся – менш ведаеш, больш жывеш.

Прайшлі годы. Прапар на пенсію выйшаў. Дзеці. Унукі. І ўсё б нічога, калі б аднойчы да яго ўнук не падышоў і не папрасіў пратэсціраваць яго па фізіцы. Даў унук дзеду пытанні, маўляў, пытайся, а я адказваць буду. І чытае наш прапар пытанне: "Вызначэнне аптычнай восі". Зварухнулася ў яго ў душы нешта. Адкрыў падручнік па фізіцы. І прачытаў: "Аптычная вось – гэта ўяўная лінія...". Прапар наш доўга потым лаяўся і шкадаваў.

– Дык, значыцца, я спірт на працірку ўяўнай лініі выдаваў...

А мараль байкі простая: вучыцца ў школе лепш трэба было.

**Сямён БОНДАР.**

■ ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

## Хітры гісторык

Адзін мой знаёмы студэнт расказаў гісторыю, якая здарылася з ім падчас вучобы. Быў у іх выкладчык гісторыі па прозвішчы Шпак. Галоўнай яго асаблівасцю было тое, што прафесар на экзамене садзіўся і проста чытаў сабе газету. Але не ўсё так проста. У кожнай яго газеце была маленькая дзірачка, праз якую ён і назіраў за студэнтамі. Вядома, што ў хуткім часе ўсе даведаліся пра яго трук. І вось чарговы экзамен. Гісторык выклаў білеты, студэнты рыхтуюцца, газета ў руках, вачэй выкладчыка нават не відаць. І тут адзін студэнт кідае запіску другому. Назіральнік ускоквае і, шчаслівы, забірае паперку. Разгортвае і чытае: "СПАКОЙНА, ШПАК, ГЭТА ЯШЧЭ НЕ ШПОРА!"

## ФАКСануў

Пятніца. Канец рабочаг дня. Мой сябра адпраўляе ў іншы офіс факс. Там ён на аўтамаце. Пасля таго, як папера прайшла, тэлефануе туды, але на іншы тэлефон, каб даведацца, ці добра відаць на паперцы тэкст. А там ужо ўключылі аўтаадказчык, маўляў, канец рабочага дня. Ну добра, таварыш адкладвае на наступны тыдзень. Панядзелак. Раніца. Сябра тэлефануе, каб, усё ж, даведацца. Трубку падымае сакратар.

– Добрай раніцы! У пятніцу як усё прайшло?

– Ну, як-як. Нажр... ліс...

Паўза.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ



## Салата з цыбулі і яек

**500 г цыбулі, 5 яек, звараных крута, 2 лыжкі гарчыцы, 100 г алею, чырвоны салодкі перац, воцат, цукар, соль, зяляніна пятрушкі.**

Цыбулю нарэзаць паўкольцамі, апусціць у падсолены і падсаладжаны кіпяток са сталовай лыжкай воцату, кіпяціць на слабым агні 5 хвілін. Ваду зліць, цыбулю ахаладзіць, пасаліць, пасыпаць цукрам, спырснуць воцатам. Жаўткі расцерці з гарчыцай, алеем, паліць салату, выкласці ў салатніцу, пасыпаць сечаным бялкамі, зялёнінай. Упрыгожыць кольцамі чырвонага салодкага перцу.

## Печань з яблыкамі

**500 г печані, 3–4 яблыкі, тлушч, соль.**

Абчышчаную печань нарэзаць скрылькамі, заліць на 1 гадзіну малаком (курыную заліць цалкам). Абабраныя яблыкі нарэзаць кружочкамі, абсмажыць з абодвух бакоў. Печань выняць з малака (не абмываць), запаніраваць у муцэ, абсмажыць, скласці ў посуд, пакрыць яблыкамі, прагрэць. Праверыць гатоўнасць: печань гатовая, калі пры праколванні відэльцам кроў не выдзяляецца.

Падаваць з варанай бульбай і салатай.

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно

Прывітанне, шаноўныя!

У мінулы раз мы прапанавалі адгадаць, чым было забаронена займацца спартанцам.

Правільны адказ – рамёствамі. Запрашаю ў кіно **Іну Селязнёву, Людмілу Кендыш, Андрэя Цітова, Дзмітрыя Шчаснага, Андрэя Мінца, Ірыну Пісаронак** і **Юлію Таляронак**.

**Юрый Юхневіч** палічыў, што ў Спарце забаранялася ўжываць віно і не займацца фізічнымі практыкаваннямі, а **Людміла Ляшчэвіч** сказала, што забаранялася ўключаць ноччу святло.

**НАСТУПНАЕ ПЫТАННЕ.** Калі ў манголаў было ханства, усіх візіцёраў да хана прымушалі праходзіць паміж двума вогнішчамі. Навошта?

Тэлефануйце 69667 у Маладзечне (апошні тэрмін 12 снежня, 17-00) і прыходзьце па запрашальны білет для дзвюх асоб на прагляд фільма ў малдзечанскім кінатэатры "Радзіма".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Кінатэатр «Радзіма»

**Снежань**

**Вялікая зала**

7–9 **"Шакалад"**, ЗША-Францыя, рамантычная камедыя 15-00, 19-00

**"Як рыбка без вады"**, Англія, камедыя на відэасістэме 17-10, 21-10

10–16 **"Падзямелле драконаў"**, прэм'ера, ЗША, прыгоды 15-00

**"Гладыятар"**, ЗША, 2 серыі 17-30, 20-20

**Для дзяцей**

9 снежня – **"Як заваяваць прынцэсу"**

■ ІМЯНІНЫ

**7 снежня**
**Праваслаўныя**: Кацярыны, Парфірыя, Лазара.
**Каталіцкія**: Марціна.

**8 снежня**
**Праваслаўныя**: Клімента, Пятра.
**Каталіцкія**: Незаганнае пачацце найсвяцейшай Дзевы Марыі, Лаўрэнцыі.

**9 снежня**
**Праваслаўныя**: Георгія, Інакенція, Якава.
**Каталіцкія**: Леакадзіі.

**10 снежня**
**Праваслаўныя**: Гаўрылы, Захара, Рамана, Усевалада, Якава.
**Каталіцкія**: Марыі, Юліі, Данеля, Рыгора.

**11 снежня**
**Праваслаўныя**: Васіля, Івана, Рыгора, Сцяпана.
**Каталіцкія**: Клары, Дамаза.

**12 снежня**
**Праваслаўныя**: Усевалада.
**Каталіцкія**: Адэлаіды, Аляксандра.

**13 снежня**
**Праваслаўныя**: Андрэя Першазванага
**Каталіцкія**: Атыліі, Люцыі.

■ ДУМКІ ЎСЛЫХ

Якая б непрыемнасць ні здарылася, заўсёды знойдзецца той, хто ведаў, што так яно і будзе.

Законы падобныя на павуцінне: слабага яны заблытваюць, а дужы іх прарывае.

### Звярніце ўвагу

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

## Купон 49

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».
Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.
Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

Тэкст

Рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

■ ЯПОНСКАЯ КРЫЖАВАНКА

Ірына САХАЦКАЯ.

Поле складаецца з 25 клетачак па гарызанталях (рады) і 30 клетачак па вертыкалях (слупкі). Лічбы ўказваюць на колькасць зафарбаваных клетачак у радзе ці слупку. Калі, напрыклад, гэта лічба 5, то трэба зафарбаваць 5 клетачак запар. Калі гэта 2+1+1, то трэба зафарбаваць дзве, адну і адну клетачкі, але пры гэтым паміж імі павінен быць разрыў у адну ці болей клетачак.

Падказка: пачынаць выкрэсліваць клетачкі трэба з радоў ці слупкоў з найвялікшай лічбай.



**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №48**

**Па гарызанталях:** 1. Запал. 4. Пабоі. 7. Айва. 8. Лепет. 9. Разак. 10. Аўра. 11. Маток. 14. Донка. 17. Халат. 20. Кабан. 23. Рама. 24. Лапта. 25. Молат. 26. Нота. 27. Пакос. 28. Рэтра.

**Па вертыкалях:** 1. Залом. 2. Попыт. 3. Латак. 4. Парад. 5. Бізун. 6. Іскра. 12. Арба. 13. Орша. 15. Охра. 16. Кава. 17. Халоп. 18. Лапік. 19. Транс. 20. Камар. 21. Балет. 22. Нітка.

## Гараскоп 10 – 16 снежня



**Авен** (21.03–20.04)

Значнае паляпшэнне ў справах, якому будуць папярэднічаць... непрыемная навіна. Вы не павінны засяроджваць на ёй сваю ўвагу. Некалькі напружаныя ўзаемаадносіны ў сям'і могуць ускладніцца, а свабодныя Авены могуць атрымаць падарунак у выглядзе ўзаемнага пачуцця любімага чалавека.



**Цялец** (21.04–21.05)

Літаральна з 11 снежня ўзнікнуць энергетычныя патокі, якія садзейнічаюць арганізацыі вакол вас выдатнай каманды. Можа адбыцца вясёлая незапланаваная вечарынка, на якой свабодныя ад шлюбу Цяльцы "рызыкуюць" знайсці сімпатычнага партнёра.



**Блізняты** (22.05–21.06)

На працягу ўсяго перыяду вы будзеце запатрабаваныя ў вытворчай сферы як найбольш кампетэнтны прафесіянал. Максімальна скарыстайце гэтую магчымасць, таму што ад "самарэкламы" будзе залежаць ваш далейшы кар'ерны рост. Не адмаўляйцеся ад камандзіровукі, дзе вы таксама можаце быць на вышыні.



**Рак** (22.06–23.07)

У будучы перыяд рэкамендуецца заняцца навучаннем і самаадукацыяй. Вы тонкі чалавек і даўно заўважылі: як толькі спыняецеся ў нарошчванні "пазнавальнага" патэнцыялу, неадкладна пачынаеце губляць нешта і ў вытворчым, і ў асабістым жыцці. Магчымае паступленне значных сум.



**Леў** (24.07–23.08)

З 11 снежня рашуча бярыцеся за радыкальнае змяненне ўласнага жыцця, якое ўжо даўно наспела. Усё вакол будзе садзейнічаць поспеху ў кроках, што вы прадпрымеце. Аднак калі вы будзеце пасіўныя і адкладзяце "рэканструкцыю" уласнага лёсу да лепшых часоў, яны наўрад ці надыдуць. Рызыкуйце, усё атрымаецца.



**Дзева** (24.08–23.09)

11 снежня можа прынесці буры на асабістым фронце. Але падобная сітуацыя, як правіла, мае два бакі. Магчыма, менавіта моцны вецер і прынясе свежыя ідэі зменаў у сямейным і асабістым жыцці. Не плануйце важных спраў і перагавораў.



**Шалі** (24.09–23.10)

З 11 снежня пачнецца работа, якая патрабуе высокай канцэнтрацыі ўвагі і засяроджанасці на прадмеце. Вельмі добры перыяд для адвакатаў і вучоных. Людзі творчых прафесій таксама змогуць пераадолець унутраны тормаз. Рэкамендавана таксама засяродзіць увагу на клопатах пра сябе.



**Скарпіён** (24.10–22.11)

З 11 снежня ўзрасце творчая актыўнасць, энергія і вынаходлівасць. Варта запланаваць на гэтыя дні рашэнне самых складаных пытанняў. Высокая магчымасць і рэалізацыі сур'ёзных інвестыцыйных праектаў. Узрадуюць дзеці і сваякі, а вось сябры могуць "здзівіць".



**Стралец** (23.11–21.12)

Будучы перыяд прысвяціце выключна сабе і сям'і. Толькі тут вы будзеце шчаслівыя і спакойныя. Аднак халастым Стральцам не варта фарсіраваць асабістыя стасункі. Вашая актыўнасць можа толькі спалохаць партнёра. Некаторыя праблемы з грашыма.



**Казярог** (22.12–20.01)

З 11 снежня павысіцца выніковасць інфармацыйных пошукаў. Вы атрымаеце шмат навін, якія дапамогуць вам у рэалізацыі намечаных змяненняў. Павысіцца камунікабельнасць, да вас будуць прыслухоўвацца.



**Вадалей** (21.01–19.02)

Увесь перыяд вам давядзецца ўзмоцнена шукаць сродкі для жыцця. Паспрабуйце адкласці справу, якой вы займаецеся непасрэдна, прыкласці максімум намаганняў да арганізацыі вытворчага працэсу, каб потым не адцягваць увагу на "дробязі".



**Рыбы** (20.02–20.03)

Не зважаючы на няўстойлівае надвор'е, ваш хваравіты стан зменіцца такім прытокам энергіі, што будуць здзіўленыя не толькі сваякі і блізкія, але і выпадковыя знаёмыя. Вы станеце ініцыятарам і арганізатарам мерапрыемства, якое, незалежна ад яго характару, можа аказацца надзвычай паспяховым і яркім.

■ ПРОСТА АНЕКДОТ

– Ты чаму сёння, Рыгор, увесь дзень такі вясёлы?

– Ды прыснілася, што кланіравалі нашу Дусю-самагоншчыцу, і кругом самагонкі – мора! А ты, Антось, чаму ўвесь дзень такі белы і трасешся?

– Дык прысніўся нейкі пачварны кашмар – што кланіравалі маю цешчу, і цяпер яна ва ўсіх пакоях, у хляве і на кожнай вуліцы!





■ ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ



## Нацыяналізм па-французску

Расказала знаёмая. Неяк мы з сяброўкай вырашылі з'ездзіць у Парыж. У адзін з дзён яна вырашыла зганяць па магазінах. Увайшла ў нейкі цікавы магазінчык і аказалася там адзіным пакупніком. Пакуль яна разглядала адзенне, прадавец вельмі незадаволена разглядаў яе. Затым падышоў і ў вельмі недружалюбнай манеры пацікавіўся, ці можа ён ей чым-небудзь дапамагчы. Сяброўка адказала, што не, дзякуй, яна ўжо сама як-небудзь.

Праз пару хвілін яна заўважыла, што абсалютна ўсе служачыя магазіна не зводзяць з яе вачэй. Абураная такім непрыкрытым нацыяналізмам, яна ўзялася разглядаць і абмацваць адзенне яшчэ больш старанна, ужо не з цікавасці, а са шкоднасці ў адказ. Тым не менш, хвілін праз 20 яе ўсё гэта канчаткова дастала, і яна ляпнуўшы дзвярыма, выйшла з магазіна. І толькі калі выйшла і гнеўна азірнулася, яна ўбачыла над магазінам надпіс: "Хімчыстка"...

**Сямён БОНДАР.**

## На што «клюе» закусь

На рабоце сябры паведалі мне такую гісторыю. Аднойчы кампанія паехала на рыбалку. Усё як мае быць: узялі чарвякоў, вуды, гарэлку. А закусь забыліся. Ну, якая можа быць рыбалка без закусі? Рабіць няма чаго, трэба неяк выкручвацца.

Непадалёк ад рэчкі стаяў хутар, на падворку якога пасліся куры. Але паўстала вялікая праблема: на хутары былі гаспадары і, мяркуючы па ўсім, сыходзіць нікуды не збіраліся. Што тады робяць нашы рыбакі? Праз дзірку ў плоце закідваюць на падворак лёску з кручком і чарвяком на ім. Дурная курыца дзяўбе прынаду – яе за лёску і выцягваюць перад носам у гаспадароў. Яны ж лёску не разгледзелі.

Потым гэтыя людзі скардзіліся кожнаму сустрэчнаму, што, маўляў, нейкая дзіўная курыца ў іх была: крычыць, крыламі б'е, упіраецца, але да плоту ўсё ж ідзе!

**Алег БЯГАНСКІ.**

Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах.
Тыраж **8190 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска).
Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная.
**№49 (346) 7.12.2001.** Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. №.
Падпісана ў друк у 13.00 6.12.2001

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**



Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета»